Жыве Беларусь!



# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
24
МАЯ
СЕРАДА
№ 40 (9527)

## Лепшыя поля веснавога

### Згодна справаздач гаспадарак у раённае ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання

**Племсаўгас "Высакоўскі"**

Драздоў Анатоль Васільевіч, працуючы на трактары К-701 у агрэгаце з культыватарам АКШ-7,2 за 23 дні адпрацаваў 30 нормазмен. Падрыхтаваў да сяўбы 930 гектараў глебы пры норме 713. Штодзённае выкананне зменных заданняў склала 130,4 працэнта.

Баранаў Аляксандр Уладзіміравіч, працуючы на трактары МТЗ-1221 у агрэгаце з плугам ПЛН-4-35 за 28 дзён адпрацаваў 40 нормазмен і ўзараў 220 гектараў глебы замест 154 па норме. Штодня выконваў зменнае заданне на 143 працэнты.

**Саўгас "Макеевічы"**

Новікаў Міхаіл Аляксеевіч, працуючы на трактары Т-150 у агрэгаце з культыватарам АКШ пракультывіраваў 735 гектараў глебы пры норме 610, або выканаў яе на 120 працэнтаў.

Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч, працуючы на трактары Т-150 у агрэгаце з культыватарам АКШ пракультывіраваў 540 гектараў глебы пры норме 450, або справіўся з ёю на 120 працэнтаў.

**Аграгандлёвае прадпрыемства "Асмолавічы"**

Харунжы Віталь Віктаравіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з раскідвальнікам НРУ-0,5 за 20 дзён унес мінеральныя ўгнаенні на 598 гектарах пры норме 360, або выканаў яе на 170 працэнтаў.

Будзянкоў Віктар Пятровіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з плугам ПЛН-3-35 за 16 дзён узараў 91,8 гектара глебы пры норме 57,6, або справіўся з ёю на 160 працэнтаў.

**Калгас "Герой працы"**

Кружаленка Віктар Васільевіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з культыватарам КПС-4 пракультывіраваў за 30 дзён 352 гектары глебы пры норме 240, або выканаў яе на 146 працэнтаў.

Серакоў Леанід Іванавіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СЗУ-3,6 за 23 дні пасеяў 456 гектараў зерневых пры норме 276, або выкананне склала 165 працэнтаў.

Яўневіч Віктар Антонавіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з раскідвальнікам РМГ-4 за 31 дзень унёс мінеральныя ўгнаенні на 890 гектарах пры норме 765. Або справіўся з ёю на 116 працэнтаў.

**Калгас "Чырвоны сцяг"**

Батвінкін Віктар Віктаравіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СЗТ-3,6 пасеяў 235 гектараў зерневых пры норме 150. Выкананне склала 157 працэнтаў.

Емяльянаў Алег Антонавіч, на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з плугам ПЛН-3-35 узараў 68 гектараў глебы пры норме 42, што складае 162 працэнты.

Пракапенка Мікалай Уладзіміравіч, працуючы на трактары К-700 у агрэгаце з культыватарам АКШ пракультывіраваў 522 гектары глебы пры норме 324, або выканаў яе на 161працэнт.

Жарыкаў Уладзімір Сцяпанавіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з пагрузчыкам ПЭ-0,8 пагрузіў 1900 тон арганікі пры норме 1500, або выканаў яе на 127 працэнтаў.

**Калгас імя Янкі Купалы**

Купрэеў Аляксандр Андрэевіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з раскідвальнікам РУМ-8 за дзесяць дзён унёс мінеральныя угнаенні на 331 гектары пры норме 275, або выканаў яе на 120 працэнтаў.

Чарнякоў Анатоль Міхайлавіч і Бераснёў Юрый Фёдаравіч, працуючы на трактарах К-700 у агрэгаце з культыватарамі КЧ-5,1 пракультывіравалі з аднасачовым баранаваннем за 12 дзён 331 гектар глебы пры норме 192, або выканалі яе на 172 працэнты.

Градаў Леанід Кузьміч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СЗУ-3,6 за 13 дзён пасеяў 195 гектараў яравых пры норме 151, або выканаў яе на 129 працэнтаў.

**Племзавод "Ціманава"**

Фёдараў Сяргей Браніслававіч, працуючы на трактары МТЗ-1221 у агрэгаце з плугам ПЛН-4-35 за 25 дзён узараў 224 гектары глебы пры норме 175, або справіўся з ёю на 128 працэнтаў.

Маложын Ігар Аляксеевіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з раскідвальнікам МВУ-5 за 28 дзён унёс мінеральныя ўгнаенні на 1120 гектарах пры норме 840, або выканаў яе на 133,3 працэнты.

Осіпаў Уладзімір Нікіфаравіч, працуючы на трактары К-701 у агрэгаце з культыватарам АКШ-7,2 за 25 дзён пракультывіраваў 875 гектараў глебы пры норме 750. Выкананне склала 117 працэнтаў.

Котаў Фёдар Васільевіч, працуючы на трактары К-701 у агрэгаце з культыватарам КЧ-5,1, за 25 дзён пракультывіраваў 625 гектараў глебы пры норме 475, або дабіўся яе выканання на 131 працэнт.

Міхеенка Аляксандр Пятровіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за 21 дзень пасеяў 550 гектараў зерневых пры норме 420, або выканаў яе на 131 працэнт.

Мачахін Міхаіл Сцяфанавіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за 21 дзень пасеяў 550 гектараў зерневых пры норме 420, выкананне якой склала 131 працэнт.

Падрыхтаваў І. ЛАПО.

• Ураджай-2000

## Пайшла прадукцыя агарода

У той час, калі хлебаробы яшчэ толькі адсеяліся і ў чаканні калі вырасце іх ураджай, агароднінаводы ўжо атрымалі сваю першую прадукцыю.

Гэта ў аграгандлёвым прадпрыемстве "Асмолавічы". Адсюль у свае ж гандлёвыя кропкі ўжо адправілі першыя партыі вырашчанага ў цяпліцах. Раней гэта была цыбуля, а цяпер — агуркі.

Атрымана першая вітамінная прадукцыя дзякуючы клапатлівым рукам цяплічніц Марыі Ціханаўны Асмалоўскай і Ларысы Віктараўны Васілеўскай. Удвух яны даглядаюць расліны ў двух крытых цяпліцах. Іх вы і бачыце разам на здымку.

І. ЛАПО.



Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.

## Рады вітаць, "Залатая пчолка"!

Ну, вось мы зноў на парозе адкрыцця традыцыйнага абласнога фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка", прысвячаецца які Дню абароны дзяцей.

Добра памятаецца яшчэ мінулагодняе цудоўнае свята дзяцінства. Сёлета, лічаць арганізатары фестывалю, яно павінна быць яшчэ больш прыгажэйшым і цікавейшым. Да нас прыедуць лепшыя дзіцячыя калектывы і выканаўцы з усёй Магілёўшчыны. Запрошаны і нашы суседзі-сябры з Міншчыны і Шумяч, Смаленска і Бранска, Гомеля і Віцебска.

Фестываль будзе праходзіць на працягу двух дзён. 27 мая з 9 гадзін раніцы у актавай зале сельгастэхнікума пачнецца прагляд конкурснай праграмы, у час якога журы зробіць адбор лепшых нумароу на заключны гала-канцэрт. Зноў, як і ў мінулы раз, удзельнікі фестывалю пабываюць са сваімі канцэртнымі праграмамі ў працоўных калектывах раёна і за яго межамі. К заканчэнню першага дня будзе арганізаваны "Вечар дружбы" для нашых гасцей і юных клімаўчан.

Прадаўжэнне свята (28 мая, у нядзелю) пачнецца ў 11 гадзін з парада ўсіх удзельнікаў фестываля. Затым на плошчы 50-годдзя Вялікага Кастрычніка (пры неспрыяльным надвор'і — у сельгастэхнікуме) у 12 гадзін — адкрыццё вялікага гала-канцэрта пераможцаў фестывальнага конкурса і іх узнагароджванне. У гэты ж дзень будзе працаваць "Горад майстроў" (выстаўка-продаж дзіцячых мастацкіх вырабаў) і праводзіцца конкурс дзіцячага малюнка на асфальце. Шырокі продаж тавараў, ласункаў райспажыўтаварыства арганізуе тут жа, побач.

Шаноўныя сябры! У Вас яшчэ ёсць магчымасць так спланаваць свой час на гэтым тыдні, каб папрысутнічаць і паўдзельнічаць у гэтым цудоўным свяце дзяцінства.

АРГКАМІТЭТ.

## Клімавіцкі раён у студзені-красавіку 2000 года

За чатыры месяцы г. г. прамысловымі прадпрыемствамі выпушчана прадукцыі ў бягучых цэнах на 4458,5 млн. руб., што менш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў супастаўных цэнах на 1,9%, у красавіку — на 27,4%.

Выпуск спажывецкіх тавараў склаў 13492,5 млн. руб. і знізіўся ў параўнанні з леташнім перыядам на 8,8%. Харчовых тавараў выпушчана на 1306,0 млн. руб., або 91,2%. Выпуск нехарчовых тавараў таксама зменшыўся — на 32,2 млн. руб., або 30,4%.

На развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы раёна па ўлічваемаму колу прадпрыемстваў за лік усіх крыніц фінансавання выкарыстана 498,5 млн. руб., у т. л. будаўніча-мантажныя работы выкананы на 433,7 млн. руб. Уведзена ў дзеянне 43 жылыя дамы агульнай плошчай 3780 кв. м., у тым ліку ў сельскай мясцовасці плошчай 2066 кв. м.

Па стану на 1 мая г. г. у калгасах і саўгасах раёна пасеяна яравых культур 9792 гектары, што складала 48% да плана і больш, чым на 26 красавіка 1999 года на 4670 гектараў.

Рэалізацыя жывёлы і птушкі ў жывой вазе склала 857 тон, зніжэнне — на 25% да мінулага года. Валавы надой малака склаў 4290 тон, або 96% да леташняга перыяду. Атрымана курыных яек 9286 тыс. шт. (74% да мінулага года). Сярэдні надой малака ад каровы склаў 543 кілаграмы, або 95% да адпаведнага перыяду 1999 г.

Нарыхтоўчыя арганізацыі закупілі ў гаспадарках усіх катэгорый 699 тон жывёлы і птушкі (у жывой вазе), што на 12% менш леташняга. Дзяржзакупкі малака павялічыліся на 146 тон (на 4%) і склалі 3450 тон. Птушкафабрыкай пастаўлена ў дзяржрэсурсы 4932 тыс. шт. яек, на 37% менш мінулага года.

Рознічны тавараабарот, уключаючы грамадскае харчаванне, склаў 1810,5 млн. руб. Платных паслуг аказана насельніцтву на 91793,4 тыс. руб., у супастаўных цэнах гэта 100,1% да студзеня-красавіка 1999 года. Паслуг бытавога характару аказана на суму 19831,2 тыс. руб. і 105,3% да леташняга перыяду.

Сярэднемесячная заработная плата работнікаў, уключаючы матэрыяльную дапамогу і сацыяльна-працоўныя льготы у студзені-лютым г. г. склала 28962 рублі і ўзрасла з аналагічным перыядам мінулага года ў 4,2 раза.

Афіцыйны статус беспрацоўнага па стану на 1 мая г. г. мелі 360 чалавек. Сярод іх 60 жанчын. Ва ўзроставай структуры пераважная большасць моладзь да 29 год (40%). Каля 27% беспрацоўных — спецыялісты з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

За студзень-сакавік г. г. у раёне нарадзілася 70 дзяцей, што на 11 дзяцей менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Памерла 184 чалавекі, з іх 33 — у працаздольным узросце. Асноўныя прычыны смяротнасці насельніцтва — хваробы сістэмы кровазвароту.

У студзені-сакавіку ў раёне зарэгістравана 27 шлюбаў і 34 разводы. Павялічылася колькасць разводаў на 100 шлюбаў з 68 — у мінулым, да 126 — у бягучым годзе.

Па матэрыялах раённага аддзела статыстыкі.

## Клопат агульны

Клімавіцкая райсельгасхімія жыве клопатамі земляробаў, працуючы на розных сельгасработах у калгасах і саўгасах раёна. Старанннем і дбайнасцю імі дасягнуты лепшы вынік у вобласці — другое месца сярод аналагічных арганізацый.

Гэтак жа добрасумленна распачаты сёлетні працоўны год. Разгружана і пагружана звыш 11 тысяч тон цвёрдых і вадкіх мінеральных угнаенняў пад яравую сяўбу. Прычым каля 2,5 тысячы тон адгружана для Краснапольскага раёна. Вапнаванне кіслых глеб праведзена на плошчы 1100 гектараў. На плошчы 7,5 тысячы гектараў унесена мінеральных угнаенняў. Вывезена арганікі звыш 17 тысяч тон. Распачаты хімаахоўныя работы.

Старанне і якасць пры ўнясенні мінеральных угнаенняў забяспечылі Іван Аляксандравіч Кабат, Валерый Міхайлавіч Андрэйчыкаў, Леанід Міхайлавіч Галкоўскі. На высадзе арганікі вызначыліся Аляксандр Анварвіч Тургунбаеў, Мікалай Фёдаравіч Несцераў, Уладзімір Леанідавіч Якушаў.

Р. СЯРГЕЕНКА.

## За сяўбой — догляд

У гаспадарках раёна распачаты догляд за пасевамі. Пры райсельгасхіміі створаны два звяны для выканання гэтай важнай работы, у кожным з якіх — па тры апырсквальнікі і вадавозу. Уключана ў работу і тэхніка гаспадарак.

Агульнымі сіламі, як вяскоўцаў, так і гараджан, ужо праведзена хімпраполка яравых зерневых культур амаль на тысячагектарнай плошчы. А гэта у племзаводзе "Ціманава", эксперыментальнай базе "Радлянская", калгасе "Рабочы", калгасе "Сасноўка", падсобнай гаспадарцы ЛГЗ і ў калгасе імя Янкі Купалы, як нас праінфармаваў першы намеснік начальніка райсельгасхарчу У. І. Пракапенка.

І. ЛАПО.

# Маладзік

*Тэматычная старонка для юнацтва*

## Новый Кодекс о браке и семье

Наши консультации

С 1 сентября 1999 года вступил в силу новый Кодекс Республики Беларусь о браке и семье. Необходимость принятия нового Кодекса была обусловлена рядом объективных причин. Существенно изменились условия жизни — политические, экономические, социальные.

Принятие нового Кодекса Республики Беларусь о браке и семье направлено на приведение норм целой отрасли права в соответствие с Положениями Конституции Республики Беларусь, согласованного с гражданским законодательством, унификацию с законодательством Российской Федерации, учет международных обязательств республики и новых подходов при проведении судебно-правовой реформы.

Согласно новому Кодексу о браке и семье Республики Беларусь сокращен срок на регистрацию брака. Если раньше заключение брака производилось по истечении месячного срока со дня подачи заявления о вступлении в брак, то сейчас через пятнадцать дней. При наличии уважительных причин пятнадцатидневный срок может быть сокращен, а также увеличен, но не более чем до трех месяцев руководителем государственного органа, регистрирующего акты гражданского состояния.

Увеличен срок на регистрацию смерти. Заявление о смерти должно быть сделано не позднее семи дней с момента наступления смерти или обнаружения умершего. Заявление о смерти может быть сделано родственниками умершего, его соседями, работниками жилищно-эксплуатационных организаций, администрацией учреждения, в котором последовала смерть, а также другими лицами. Повторные свидетельства о смерти выдаются только родственникам умершего.

Для расторжения брака введен только судебный порядок. При этом предусмотрено, что при приеме искового заявления суд предоставляет супругам трехмесячный срок для принятия мер к примирению или решения спорных вопросов.

В судебном порядке рассматриваются заявления граждан по восстановлению записей актов гражданского состояния. После вступления в законную силу решения суда, заявителю выдается на руки выписка из решения суда для регистрации записи акта гражданского состояния в органах ЗАГСа по месту вынесения решения суда.

Введен новый порядок усыновления — судебный.

Усыновление производится судом по заявлению лиц, желающих усыновить ребенка, по месту жительства (нахождения) ребенка или по месту жительства усыновителей.

Усыновление детей иностранными гражданами производится Минским горсудом, областными судами. Интересы ребенка в этом процессе предоставляют органы опеки и попечительства, а при международном усыновлении — и Национальный центр усыновления.

Учет детей, подлежащих усыновлению, и лиц, желающих усыновить детей, осуществляется органами опеки и попечительства и Национальным центром усыновления; посредническая деятельность по усыновлению детей не допускается.

Суд в течение трех дней со дня вступления в законную силу решения суда об усыновлении ребенка направляет выписку из этого решения в государственный орган, регистрирующий акты гражданского состояния по месту жительства усыновителей.

**Л. МОХОВА,**
**заведующая отделом ЗАГСа Климовичского райисполкома.**

## Не разлучить при жизни нас

Дебют

*Подгурская Елена Александровна родилась 8 марта 1977 г. в д. Осмоловичи, Климовичского района.*

*В 1992 г. закончила Осмоловичскую базовую школу. Без долгих колебаний выбрала себе профессию, раскрывающую полностью душу и возможности человека — учитель. В том же году поступила в Горецкое педагогическое училище.*

*Занимаясь в литературном кружке Горецкого педучилища, она была поражена своим руководителем Т. С. Автушенко. С какой легкостью она погружала студентов в поэзию известнейших поэтов и писателей.*

*"Наверное это и послужило началом моего примитивного стихосложения, — признается Елена. — И, конечно, излюбленная тема юности — любовь".*

*Закончила Елена Подгурская ГПУ в 1996 г., по распределению попала в свой район, а именно в д. Родня, где и вышла замуж в 1997 г. Сейчас работает учителем начальных классов в Роднянской СШ. И чисто случайно решилась показать свои скромные пробы в поэзии.*



Елена ПОДГУРСКАЯ

### Страсти зной

Приведи ее в сад,
Полный свежей и чистой любви.
И без всяких преград
Вы останетесь в нем до зари.

Сад мечты!
Здесь стесненья цветы говорят,
Ты к устам ее нежно прильни,
Ей не в силах вернуться назад.

Страсти зной!
Шепот гордой девичьей души:
"Вот она долгожданная сердцем любовь,
И ее больше ты не ищи!".

Не покинь счастья сад,
Полный свежей и чистой любви.
И без всяких преград
Вы останетесь в грезах одни!

### Тень любви

Ты проснешься, увидишь себя,
Посмотреть в пустое стекло.
Зеркала отражают, гоня
Жизнь твою, и тебе нелегко.

Он приснился сегодня, был твой.
Ты от счастья, как роза, цвела,
Так заманчиво звал за собой;
Не раздумав, за ним ты пошла.

А на утро, проснувшись в слезах,
Ты начнешь свой обычный день.
Отражается все в зеркалах,
Как любви неспокойная тень.

### Мой путник

Для меня ты обычный прохожий,
На немного забросив свой путь,
Ты с любовью большой осторожно
У порога присел отдохнуть.

Без надежды, без серой корысти:
Просто в душу запали слова.
И, упрятав нелепые мысли,
К себе в дом я тебя позвала.

В твой мирок я вошла незаметно,—
Жадно, страстно прижалась к тебе.
И с надеждой заманчивой, светлой,
Я сгораю в любви, как в огне.

### Я с тобой всегда!

Тебя рядом нет со мной сейчас,
В грусть дорога долгая ведет.
Мне блуждать по ней еще не раз,
Об руку любовь со мной идет.

Как дойти и где тебя искать?
Сердце, помоги и приведи.
Сможет ли хоть кто меня понять?
Только голос: "Верь, люби и жди".

Голос твой, в нем сила и покой, —
Знаю, он поможет в трудный час.
Он живет в душе моей одной,
И не разлучить при жизни нас.

Только ты, как жаль, не в силах знать —
На тоску и грусть обречена,
Сможет ли хоть кто меня понять.
Слышу голос: "Я с тобой всегда!".

## "Мне сегодня шестнадцать" —

так назывался вечер, посвященный шестнадцатилетним ребятам. Здесь они поближе познакомились с символикой республики — Гербом, Флагом, Гимном. Инна Шматкова и Елена Родюк подготовили стихи и песни о нашей прекрасной и многострадальной Беларуси.

Вели программу вечера учащиеся Юля Андрейчук и Сережа Горелов. Они старались с душой донести до каждого ту мысль, что большим событием в жизни молодых людей является получение паспорта. С информацией о сегодняшнем паспорте перед ребятами выступил приглашенный на вечер начальник паспортно-визовой службы Климовичского РОВД Иван Алексеевич Игнатенко.

Как-то по-новому прозвучало и стихотворение В. Маяковского о паспорте в исполнении Виктора Капитонова. А с напутственным словом-наказом к шестнадцатилетним обратилась ветеран труда, заслуженный преподаватель (сейчас она работает воспитателем общежития) Татьяна Александровна Письменкова.

И, конечно же, на вечере выступил студенческий вокально-инструментальный ансамбль "Этикет" в составе Юрия Орловского и Сергея Куртина, Александра Осипова, Андрея Строгонова и Марины Шалашень. Они подарили зрителям уже полюбившиеся песни.

**Н. ЮРЕНКОВА,**
**руководитель студенческого клуба.**

## Стадыён сабраў лепшых

Днямі ў раёне прайшла чарговая летняя спартакіяда сярод дапрызыўнай і прызыўнай моладзі Клімаўшчыны.

Спаборніцтвы працягваліся два дні, і за перамогу спрачаліся гарадскія школы, ПТВ-214, сельскагаспадарчы тэхнікум, а таксама прадстаўнікі Роднянскай, Судзілаўскай, Мілаславіцкай, Звянчацкай, Палошкаўскай, Барсукоўскай, Вялікамохскай і Ціманаўскай сельскіх школ.

Сярод першай групы ўдзельнікаў старэйшага ўзросту перамаглі вучні другой гарадской школы. Сярод малодшага ўзросту перамогу святкавалі вучні трэцяй гарадской школы.

Сярод вяскоўцаў лепшы вынік паказалі вучні Палошкаўскай школы.

У асабістым першынстве лепшыя вынікі паказалі А. Хартнік (ПТВ-214), Д. Галавешкін (СШ № 2), М. Івашкевіч (СШ № 2), Я. Кавалёў (СШ № 3), М. Медзвядзёў (СШ № 2), А. Ветраў (СШ № 3), Э. Шамрыцкі (Барсукоўская СШ), Д. Аляксеенка (Палошкаўская СШ) і А. Куруленка (Звянчацкая СШ).

**Н. ВОЛЬНЫ.**

## Наперадзе шмат добрых спраў

Апошнім часам у раёне прайшло шэраг цікавых мерапрыемстваў для маладых людзей горада і вёскі. На жаль, некаторыя навучальныя ўстановы, арганізацыі не прайаўляюць актыўнасці і не ўдзельнічаюць у мерапрыемствах, якія праводзяцца. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з выконваючым абавязкі першага сакратара РК ГА БПСМ Сяргеем Быкавым, каб задаць яму некалькі пытанняў:

**— Скажыце, калі ласка, якія мерапрыемствы праводзяцца зараз раённым камітэтам маладзёжнай арганізацыі і хто ў іх удзельнічае?**

— За апошні час РК ГА БПСМ сумесна з аддзелам па справах моладзі райвыканкама правялі два туры гульні КВЗ, у якіх прымалі ўдзел вучні першай гарадской, Галіцкай сельскай школ. Глядачоў было шмат. Рабятам было цікава паглядзець на сваіх аднакласнікаў, знаёмых. А вось каб паўдзельнічаць самім, тут вынаходлівых не шмат. У раённым конкурсе "Малады педагог года" прыняло ўдзел некалькі настаўнікаў. А хацелася б бачыць прадстаўнікоў кожнай навучальнай установы раёна. Няўжо няма ў нас маладых талентаў? Сумняваюся. Напэўна, змяніліся самі адносіны некаторых людзей да справы. Усё больш хочацца рабіць менш, а атрымліваць за гэта шмат. Але так не бывае. Перад тым, як чагосьці дасягнуць, трэба каб цябе заўважылі. І што, як не нашы мерапрыемствы, дазваляе гэта зрабіць. У сваю чаргу, мы стараемся прэміраваць удзельнікаў нашых конкурсаў. Прызы падбіраем спраўных, нягледзячы на абмежаванасць у сродках. Ці апошнім часам добрай кнігай, гадзіннікам, смачным кандытарскім вырабам ужо нікога не зацікавіш? Таксама сумняваюся.

**— Ну і якое выйсце шукаць, падкажыце, як сёння зацікавіць моладзь для ўдзелу ў мерапрыемствах, якія праводзяцца ў раёне?**

— Нам, напэўна, трэба павялічыць інфармаванне моладзі пра нашы планы, больш расказваць пра тых, хто ўжо ўдзельнічае ў нашых мерапрыемствах, спрабаваць самім зарабляць сродкі на розныя конкурсы.

Хацелася б, у сваю чаргу, знайсці разуменне і ў адміністрацый навучальных устаноў раёна, іншых арганізацый, дзе працуе моладзь, якая пакуль не далучылася да нас. Адным словам, хацелася б дапамогі з боку кожнага кіраўніка ў раёне. Нам добра дапамаглі ў ДРБУ-172, на лікёра-гарэлачным заводзе, калі арганізавалі паездку дэлегатаў раённай арганізацыі БПСМ на абласную канферэнцыю. Спадзяемся, што наша супрацоўніцтва будзе працягвацца.

**— Дзякуй.**

**Н. МІНЧАНКА.**

## Клеопатра не блистала красотой

Последнюю царицу Египта Клеопатру принято считать эталоном обольстительности. И в кино, и на сцене ее всегда играют самые красивые актрисы. Между тем античный летописец Кассиус Дио, который описал ее как роскошную женщину, в глаза ее не видел: он жил веком позже. Реальные же описания современников отмечают ее дебелость, длинный нос, тонкие "злые" губы, пухлые щеки, из-за которых ее прозвали "мордастой". (Хотя голос и глаза были действительно обворожительными). Два ее знаменитых любовника — диктатор Юлий Цезарь и полководец Марк Антоний — любили ее за редкий ум и образованность.

## Школа змяніла свой статус

Другі год у раёне існуе клас харэаграфіі. З адкрыццём класа змяніла свой статус музычная школа, зараз яна завецца школай мастацтваў. Будаваўся клас гаспадарчым спосабам з дапамогай гаспадарчай групы раённага цэнтра культуры. Асабліва пастараліся два педагогі школы: Аляксандр Мікалаевіч Лук'яненка і Уладзімір Рыгоравіч Салановіч. Рукамі майстроў зроблены рамонт памяшкання, а таксама ўсе неабходныя для заняткаў прылады і інструменты.

Зараз у класе вучыцца больш шасцідзесяці хлопчыкаў і дзяўчынак. Тэрмін навучання — шэсць гадоў. І каб трапіць сюды, трэба прайсці ўмовы конкурсу.

Па словах дырэктара навучальнай установы Наталлі Яўгенаўны Казырэнка, ёсць свая спецыфіка, калі праводзіцца набор навучэнцаў для заняткаў у класе. Таму трапіць сюды можа не кожны. А з тымі, каму пашанцавала, займаюцца вопытныя педагогі ўстановы Галіна Антонаўна Гаруля, Тамара Міхайлаўна Давыдова, Аксана Уладзіміраўна Алахава.

Работы ўжо ўдзельнічалі ў розных раённых мерапрыемствах. З цягам часу іх чакаюць абласныя і рэспубліканскія конкурсы.

Пасля заканчэння вучобы ў класе харэаграфіі можна паступаць на вучобу ў інстытут культуры горада Мінска.

Пакуль жа хочацца пажадаць настаўнікам плённай працы ў галіне мастацтва.

**Н. ЛІНЁЎ.**

# У дапамогу аднаўлення храма

Свайго роду сімвалам адраджэння духоўнасці і веры людзей стала ў нашым раёне аднаўленне ў вёсцы Мілаславічы Свята-Пакроўскай царквы, заснаванай у 1887 годзе.

Дзякуючы ахвяраванням прыхаджан, райвыканкама і асабліва сям'і Адама Тройера — члена дабрачыннай ініцыятывы "Дапамагчы дзецям Чарнобыля" рэгіёна Рейн-Нае, над паўразбураным будынкам ужо ўзнесліся ў вышыню зязюючыя на сонцы купалы, і царква набыла свае звычныя абрысы.

Але на завяршэнне аднаўленчых работ неабходна яшчэ нямала сродкаў. Аб гэтым, адкрываючы дабрачынны марафон па збору сродкаў на заканчэнне рэстаўрацыі Свята-Пакроўскага храма, гаварылі яго арганізатары — намеснік старшыні райвыканкама І. А. Баршчоў і настаяцель Свята-Міхайлаўскай царквы айцец Інакенцій.

Трэба сказаць: не так і многа прыйшло людзей на марафон, што праходзіў 3 мая ў кінатэатры "Беларусь", але ахвяраванні ўсё ж былі. Так, ад сябе асабіста і сваіх калектываў уклад у скарбонку марафона ўнеслі: намеснік дырэктара КХП А. А. Дварэцкі, старшыня райспажыўтаварыства В. В. Чарняцоў, старшыня прафкама ЛГЗ М. М. Саўчанка, дырэктар ВА ЖКГ Г. В. Ляпуноў, начальнік РАУС А. Ю. Праневіч, загадчык аддзела культуры райвыканкама В. М. Хаўранкова, дырэктар ЦБС А. В. Сіліверстава. Таксама вядучая марафона Людміла Вароніна аб'явіла аб зробленых ахвяраваннях хлебазавода і ПТВ-214, Аграпрамбанка і аддзела сацыяльнай абароны райвыканкама, царквы. У другую скарбонку, для прыватнікаў, апусцілі свае ахвяраванні Генадзь Васільевіч Ляпуноў, Тамара Васільеўна Мінчанка і Марыя Іванаўна Кавалёва.

А ўвогуле на рахунак марафона паступіла грошай — 1 мільён 217 тысяч рублёў.

Айцец Інакенцій выказаў вялікую ўдзячнасць усім добрым людзям, што адгукнуліся на заклік і прынялі ўдзел у высакароднай справе. А яшчэ юным клімаўчанам — удзельнікам мастацкай самадзейнасці гарадскіх школ, а таксама Мілаславіцкай, Барсукоўскай, Паўлавіцкай СШ — усім удзельнікам канцэртнай часткі марафона.

Збор сродкаў працягваецца.

**В. КВАРЦЮК.**

# УСЕ НАВІНЫ — У ПАШТОВАЙ СУМЦЫ



**На здымку: прыём і адпраўку карэспандэнцыі ва ўсе паштовыя аддзяленні раёна ажыццяўляюць З. С. Валкевіч, К. М. Кухарава, В. М. Асмалоўская, Т. К. Радзькова (злева направа).**



**Дастаўшчыкі пошты Л. В. Жарыніна, Н. М. Дарашэнка, С. В. Даніленка, А. М. Благушава і М. Р. Давыдова перад выхадам на свае ўчасткі.**

**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**

Паштовая сувязь. Яна была і будзе той узаемазвязваючай ніткай, якая так патрэбна людзям. Таму і стараюцца клімавіцкія паштавікі на чале з іх кіраўніком Уладзімірам Іванавічам Васькоўскім рабіць усё магчымае, каб іх работа была своечасовай, якаснай, прадукцыйнай.

Тут працуюць людзі неабыякавыя да сваёй агульнай справы і стараюцца рабіць усё належнае, каб служба паштовая функцыяніравала без аўралаў.

... Мы гутарым у кабінеце намесніка начальніка РВПС Р. З. Дарашэнкі. Для паўнаты інфармацыі свае тлумачэнні давалі вядучы эканаміст Н. М. Трафімава, начальнік спецсувязі Т. І. Бандарэнка. Стала вядома, што за 1999 год выручка склала 45 мільярдаў рублёў, тавараабарот — 33 мільярды рублёў. Сярэдняя ўдзельная вага гандлю ад усёй выручкі складае 9,7%, у 1998 годзе — 7,9%. Леташні год быў багатым на нетрадыцыйныя паслугі: іх аказвалася пятнаццаць відаў, у той час як у папярэднім годзе — толькі 7. Даволі шырока развіта і карыстаецца попытам у насельніцтва экспрэс-пошта — 2192 адпраўленні зарэгістравана летась. Па вобласці гэта другое месца пасля г. Магілёва. Зручная яна тым, што сёння любыя адпраўленні прымаюцца, а назаўтра — уручаюцца адрасату.

Лепшымі начальнікамі паштовых аддзяленняў прызнаны Тамара Міхайлаўна Зеньковіч з Родні, Марыя Іванаўна Глушакова з Мілаславіч, Галіна Сямёнаўна Рыгель з Макеевіч.

Добры паказчык тут атрыманы па падпісной кампаніі: пры маючай колькасці насельніцтва ў раёне 34000 чалавек падпісалі 22110 экземпляраў. На адну тысячу чалавек прыходзіцца 656 экземпляраў.

Добра працуе даставачная служба — паштальёны. Скаргаў на іх работу не было. Карэспандэнцыя дастаўляецца імі ў кантрольныя тэрміны. Дастаўка пісьмовай і страхавой пошты ажыццяўляецца чатырма маршрутнымі машынамі і яшчэ адна абслугоўвае перасоўнае аддзяленне.

Стараюцца вадзіцелі паштовай сувязі Аляксандр Емяльянавіч Сігаеў, Уладзімір Іванавіч Мудракоў, Ігар Анатольевіч Зайцаў, Павел Васільевіч Мамрыкаў, Станіслаў Мікалаевіч Лімараў. Усе яны маюць багаты рабочы вопыт.

Апрацоўкай дастаўленай з Магілёва карэспандэнцыі заняты работніцы сартыроўкі. Гэта аператары сувязі Зінаіда Свірыдаўна Валкевіч і Тамара Канстанцінаўна Радзькова, паштальёны па абмену і суправаджэнню пошты Клаўдзія Мікалаеўна Кухарава, Валянціна Іванаўна Фралова і Вольга Мікалаеўна Асмалоўская, аператар па адпраўцы пошты Ніна Парфёнаўна Лосева.

У любое надвор'е і своечасова нясуць радасць людзям у сваіх сумках паштальёны. Працуе восем даставачных участкаў, якія абслугоўваюць Надзея Міхайлаўна Дарашэнка, Алена Мікалаеўна Благушава, Любоў Васільеўна Жарыніна, Святлана Васільеўна Даніленка, Марыя Рыгораўна Давыдова, Галіна Аляксееўна Шутава, Раіса Паўлаўна Канавалава, Святлана Іванаўна Свістунова.

Сярод сельскіх калег Р. З. Дарашэнка адным з лепшых працаўніц назвала паштальёнаў Лазовіцкага перасоўнага аддзялення сувязі Галіну Паўлаўну Навумаву, Звянчаткага — Ганну Рыгораўну Сафранкову, ветэрана працы Раднянскага АС Тамару Іванаўну Вяткіну.

Дзякуй усім сувязістам-паштавікам за іх добрасумленную і такую неабходную для кожнага з нас працу!

**Р. СЯРГЕЕНКА.**

***Па слядах нашых выступленняў***

## Час заезду аўтобусаў зменены

У райгазеце "Родная ніва" ад 22 сакавіка г. г. быў змешчаны крытычны матэрыял пад загалоўкам "На пераломе", дзе, у прыватнасці, жыхары вёскі Стары Дзедзін прасілі памяняць дні заезду маршрутнага аўтобуса з серады на пятніцу.

Як адказаў рэдакцыі дырэктар аўтапарка № 9 У. А. Астапенка, па просьбе вяскоўцаў з 17 мая 2000 года аўтобус па маршруту Клімавічы — Звянчатка будзе рабіць заезд у Стары Дзедзін па аўторках і пятніцах. Гэты ж аўтобус будзе заязджаць у Хадунь па серадах, у Іванаўск — па пятніцах.

## "Цёплы дом"

Напярэдадні 15 мая — Дня сям'і — я разам з работнікамі раённага аддзела адукацыі, раённага цэнтра культуры пабывала ў дзіцячым прытулку, што знаходзіцца ў в. Ціманава.

Як не сумна, але на даны момант гэты дом з'яўляецца для пятнаццаці хлопчыкаў і дзяўчынак родным. Гэта іх сям'я. Не матулі, а выхавацелі і нянечкі агортваюць іх цяплом і ласкай, увагай і клопатам.

Маленькае свята ў сувязі з праводзімай у раёне дабрачыннай акцыяй "Цёплы дом" падрыхтавалі і правялі для гэтых рабят Галіна Церашкова і Людміла Цімаховіч. Пад музычны акампанемент Сяргея Бабічава яны ў прыгожых, яркіх касцюмах клоунаў вадзілі карагоды, танцавалі і спявалі, прыгалі, ладзілі розныя гульні, конкурсы.

І, вядома ж, частавалі ласункамі. А развітваючыся, падарылі кожнай дзяўчынцы па лялцы "Барбі", а хлопчыкам — па іх любімай машынцы.

Радаваліся, весяліліся дзеткі. Загарэліся іх маленькія вочкі шчаслівым агеньчыкам.

Раённы цэнтр культуры ўвогуле абавязаўся абслугоўваць гульнявымі праграмамі, тэатралізаванымі прадстаўленнямі гэту дзіцячую ўстанову, а таксама і Красавіцкую школу-інтэрнат. Так што дзеці не будуць абдзелены ўвагай з боку работнікаў культуры.

**В. КВАРЦЮК.**

● Спадчына

# *Зямля, дзе пачаўся мой лёс*

**(З гісторыі паходжання назваў вёсак Клімавіцкага раёна)**

**(Пачатак у №№ 29-35, 37-39)**

**МАЛЫШКАВІЧЫ**

У мінулыя гады землі навокал сучасных Малышкавіч належалі нейкаму князю Малышаву. Сам ён жыў у Польшчы, а за землямі даглядалі прызначаныя ім упраўляючыя. Сам князь і даваў назвы навакольным вёскам. Гэтая вёсачка здалася яму маленькай. Ды і прозвішча ў князя было Малышаў. Ён і назваў яе Малышкавічы. У 1914—16 гадах сюды прыехала на пастаяннае жыхарства яго радня — пані Ванда. Вакол вёскі былі раскінуты хутары. Падчас калектывізацыі іх аб'ядналі ў адну вёску. Вёска падзелена на дзве часткі: "шляхта", дзе сялілася багатая шляхта, і "пасёлак", дзе сяліліся простыя людзі.

У Малышкавічах наладжваўся кірмаш, на які з'язджаліся з усяго наваколля. Была пабудавана капліца. Потым хацелі пабудаваць царкву, але чамусьці перанеслі ў Родню. Уручную быў выкапаны пруд, які ўпрыгожылі ліпамі. Ён захаваўся і сёння.

**Са слоў Ф. І. ПАДАБЕДА.**

**МІЛАСЛАВІЧЫ**

Даўным-даўно, у сівую мінуўшчыну, прабілася з-пад зямлі крынічка, пацякла між хмызнякоў і гаёў празрыстай ручаінкай, дала пачатак невялікай і ціхмянай рэчцы Іпуць.

Зараз цяжка сказаць, калі на яе берагах упершыню пачалі сяліцца людзі. Навукоўцамі-археолагамі пакуль што не знойдзена тут слядоў першабытнага чалавека. Не надта багаты берагі Іпуці на старажытныя паселішчы. Але курганны могільнік, які знаходзіцца непадалёку ад вёскі Макеевічы, дае нам падставу дапусціць, што на ўзбярэжжы Іпуці ўжо ў часы Старажытнай Русі IX—XII стагоддзяў жылі людзі. Раскопак і вывучэння курганаў, на жаль, не вялося, таму мы нічога не можам сказаць пра гэтых людзей, калі дакладна яны жылі і чым займаліся. Але, магчыма, з тых незапамятных часоў пачынаецца гісторыя вёскі Мілаславічы.

З пакалення ў пакаленне пераходзіла легенда аб тым, як узнікла сённяшняя назва вёскі. У даўнія часы людзі жылі на дрыгвяніста-балоцістым рэчышчы. Вясной, летам і восенню была тут непралазная гразь, таму, як сведчыць легенда, празвалі вёску Гразівец.

З крывуляй-сошкай калупаліся людзі на сваіх палосках, але неўрадлівая зямля скупа адорвала іх за цяжкую працу. Каб пракарміцца, дабаўлялі ў хлеб то кару, то лебяду. А трэба ж было яшчэ хадзіць на паншчыну, плаціць аброк. Пан што хацеў мог зрабіць з прыгонным селянінам — прадаць, закатаваць, аддаць навечна ў салдаты. Паскардзіцца на пана не было каму, бо, як тады пайшло, да бога высока, а да цара далёка.

Ды раптам, калі верыць легендзе, завітаў сюды цар. І не цар, а царыца Кацярына. Можа, пачула скаргі ды стогны зняволенага люду? А можа надумала строга, па-царску, спытаць з ненажэрных паноў за іх здзекі?

Не, не за тым сюды ехала царыца. Ехала яна на поўдзень да свайго каханца Грышкі Пацёмкіна. А па дарозе завярнула да тутэйшых паноў. Паны ж рады старацца, з тае вялікае радасці гатовы былі па сем скур здзерці з прыгонных сялян. Прымусілі перад царыцай прывесці ў парадак дарогу, выслаць яе зялёнымі галінкамі і кветкамі, пакрыць кужэльным палатном. Дужа спадабалася гэта ўсё царыцы. І краявіды спадабаліся. Убачыўшы такую сустрэчу, царыца не ўстрымалася, каб не выказаць у захапленні сваіх пачуццяў. Расчулена яна ўсклікнула: "Як жа тут міла і слаўна!". З таго і пайшла новая назва вёскі: Міла-слаўна, Міласлаўнае, Мілаславічы...

**М. ДУКТАЎ.** "З гісторыі вёскі Мілаславічы: (XVI—XVIII ст.), "Родная ніва", 1995, 22 лістапада.

**(Працяг будзе).**

## Узники фашистских концлагерей

# Горечь воспоминаний

**БАРАНОВ Виктор Никифорович**

**(10 октября 1925 г. — 19 сентября 1999 г.)**

**(Начало в №№ 29-35, 37-39)**

Не приведи Бог жить без власти и порядка: люди становятся страшнее и опаснее зверей. Калечат и убивают друг друга физически и духовно. Скоро и явно обнажаются их пороки. Их поведением руководят не ум, совесть и принятые нормы поведения, а похоть, страсти, низменные чувства. То время не раз вспомнил. Кто пережил подобное, не забудет. А кто не испытал на себе, вряд ли поверит.

Нас сначала охраняли американцы. При них и началась вольница. Буквально через несколько часов все преобразилось. Многие забыли, кто они, откуда и что их ждет впереди. Перестали понимать, что творят. Казалось, что вдруг лишились ума и совести, жалости и ответственности перед властями и Богом.

В комнатах жили мужчины и женщины. Женатые и холостые. Непорочные и стервы. Трезвенники и готовые пить спиртное сколько хочет, пока хватает сил поднести стакан ко рту. Находились такие, что пили больше, чем могли. После этого или трупами лежали, или бешеными становились.

Там были люди разных возрастов, национальностей и пороков. Большинство из них скоро одурели от свободы и спиртного. Все там скоро изменилось к худшему. Пороки обнажились моментально и явно.

Лагерь охраняли американские солдаты с оружием. Были проходные. На них постоянно находились дежурные, контролеры и охранники. Но все это было ради формы. Выходили и возвращались свободно. Лазили через заборы. В городе крали, грабили, насиловали, хулиганили. Грабили магазины, склады, учреждения, местных жителей. В их квартирах и на улицах. Женщин насиловали, не глядя на рост, вес, возраст и внешний вид. Случалось и такое: при встрече пары прямо на улице насиловали жену. Мужа заставляли стоять на коленях и смотреть, как поступают с его женою. Уверен, что это была не столько месть за причиненные фашистами унижения и пытки, сколько проявление угара от спиртного, дикости и бездумной жестокости. Такое ни забыть, ни простить нельзя. Насилие было самым страшным и противным проявлением наших пороков.

Вторым по значимости и мерзости пороком было стремление награбить побольше. Запасались всем, что может пригодиться. Забирали все, что понравилось. Воровством и грабежами занимались даже ленивые. Ворованное и награбленное таскали в лагерь. Те, кто опасался, что ворованное украдут и награбленное отнимут, прятали на кладбище. Благо оно было недалеко от лагеря.

Все это пришлось видеть своими глазами и слышать своими ушами. Не скажу, что был самым скромным, но испытал чувства стыда и страха за безобразия некоторых земляков во время пребывания в дортмундском лагере. Сам был участником происшествия дикого и страшного. Хорошо помню, как все было.

В большой комнате, как в казарме, нас было много. Я спал на кровати второго яруса. Слышал, как на кровати подо мной вели себя девушка по имени Лена и парень по имени Петр. Откуда Лена, не знаю. Петр из Ростовской области. Ее и его знал еще по совместной работе на литейном заводе.

Она скромная, трудолюбивая, небрезгливая, доброжелательная. Делилась с нами всем, чем могла. Многим латала, штопала, стирала. Делилась последним куском хлеба и всем, что удавалось добыть. Могла и приготовить поесть. Он в общем-то нормальный парень. У него был один порок, но великий. Когда выпьет спиртного, становился дурак-дураком. Об этом мы знали и оберегали его, как могли. И когда удавалось вынести спирт из литейного завода и давали выпить ему, то не позволяли ему выпить сверх меры. Прятали его, чтобы не проявил свою дурь. Он в трезвом состоянии даже просил нас, чтобы его опекали и не бросали одного.

Мы знали, что она оставалась непорочной и очень старалась остаться такой. Ее уважали за отзывчивость, доверчивость, услужливость. К ней никто не приставал. Более того, как-то без уговора оберегали ее.

В тот вечер к ней начал приставать Петр. Лежа над ними, слышал, как он нахальничал. Добивался своего. Обещал много. Она просила подождать, пока станут мужем и женою.

**(Продолжение следует).**

## Службы розныя, мэта – адна

Дарогі, дарогі... Асноўны і штодзённы клопат працаўнікоў ДРБУ-172. Усяго гэтай арганізацыяй абслугоўваецца аўтадарог мясцовага значэння 383,7 кіламетра, рэспубліканскага — 13,5 кіламетра. Да таго ж, у бліжэйшай перспектыве плануецца перавесці на баланс ДРБУ усе ўнутрыгаспадарчыя дарогі. Спраў прыбавіцца, вядома. Але ўсё б пад сілу дарожнікам, калі б не адна праблема — пастаўка бітума, асноўнага матэрыялу для вырабу асфальта. Завозяць яго з Наваполацка. Каштуе — нядзешава.

Але справы не стаяць на месцы. Асноўная ўвага надаецца будаўніцтву грунтовых дарог. Вядзецца капітальны рамонт аўтадарогі Галічы-Малышкавічы-Якубаўка, дзе з "грунтоўкі" будуецца "гравійка" і 1 кіламетр асфальтаванай стужкі. Сярэдні рамонт ажыццяўляецца на ўчастку Галічы-Післяціна (3,5 км), пад'езд да в. Тарасавічы (1 км), Цітаўка-Стары Стан (3,9 км). І, канечне, не забываецца бягучы рамонт усіх абслугоўваемых аўтатрас. Работы вядуцца цыклічна, згодна намечанага графіка і плана.

Поспех справы забяспечваецца стараннем людзей, якія нягледзячы на рознага роду цяжкасці спраўляюцца з пастаўленымі перад імі задачамі. У ліку іх — майстар Л. П. Зайцаў, трактарыст М. В. Пракапенка, вадзіцель Л. В. Баяраў і многія іншыя.

* * *

У Клімавіцкіх электрасетках — свая спецыфіка работы: забяспечыць надзейнасць і бяспеку работы электраліній. За чатыры месяцы адрамантавана ліній ВЛ-0,4кВ 228 кіламетраў, ВЛ-6-10кВ — 183 кіламетры. Зніжаны ўмоўна пастаянныя затраты ў параўнанні з планам на 6,2 млн. руб. Аказана паслуг насельніцтву на суму 192,3 тыс. руб., іншым арганізацыям — на 663 тыс. руб.

Адно толькі клапоціць энергазабеспячэнцаў — неплацяжы за карыстаемую электраэнергію. Працэнт даўжнікоў складае 38,5%.

Як бы тое ні было, на прадпрыемстве стараюцца, каб іх працаўнікі па магчымасці былі сацыяльна і матэрыяльна абаронены. Тым больш, што і самі людзі стараюцца давесці заданні выконваць паспяхова. Сярод тых, хто заслужыў добрага слова за сумленную працу — электраманцёр службы рэлейнай аховы і аўтаматыкі В. І. Нікіценка, намеснік начальніка названай службы К. А. Фрузораў, электраманцёр службы ВЛ-35-750кВ А. А. Агароднікаў, электраслесары службы падстанцый М. М. Худобкін, І. У. Медзвядзёў, электраманцёр службы СДТУ М. М. Бабкоў, майстар Клімавіцкага раёна электрасетак С. Ф. Іваноў, электраманцёр РЭС — І. В. Мамыка.

**Р. СЯРГЕЕНКА.**

## Кулінарнай справы майстры

Нядаўна ў мяне была магчымасць пабываць на кулінарным савеце аб'яднання грамадскага харчавання, у час якога праходзіў раённы конкурс "Лепшы па прафесіі". Яго ўдзельнікі — повары, кандытары, афіцыянты з розных прадпрыемстваў горада. А конкурс і быў разлічаны на тое, каб даць работнікам адказнай сферы — сферы паслуг — выдатную магчымасць папрацаваць разам, падзяліцца адзін з адным тымі здабыткамі, што мае кожны ў плане кулінарнага майстэрства.

Адразу скажу: усё, што было прапанавана на суд камісіі спецыялістаў прыемна ўражвала і сваім знешнім выглядам, і сваімі смакавымі якасцямі. Але трэба было выбраць з усяго прадстаўленага самае лепшае, тым самым даць яму шырокую дарогу. Так, вельмі хацелася б у паўсядзённых меню нашага рэстарана, сталовых бачыць такія апетытныя стравы, на прылаўках — незвычайныя па прыгажосці і смаку кандытарскія вырабы.

Падвёў вынікі конкурса і ўсёй работы кулінарнага савета старшыня раённага спажыўтаварыства В. В. Чарняцоў. Як сказаў Васіль Віктаравіч, у кулінарнай справе фантазіі не павінна быць мяжы. Ён заклікаў усіх імкнуцца да большага, узнімаць імідж прафесіі, несці прыгажосць людзям, упэўнена паабяцаў: тое, што зараз перад намі — будзе на сталах! Кіраўнік уручыў каштоўныя падарункі пераможцам: Наталлі Віктараўне Шляхценка, повару сталовай № 4; Валянціне Станіславаўне Мароз, кандытару сталовай № 5; Эле Іванаўне Асмалоўскай, афіцыянту рэстарана "Світанак". Ім прадстаўляць наш раён на абласным конкурсе!

Другія і трэція месцы занялі: Вера Іванаўна Шэўчык і Надзея Міхайлаўна Саўрэй (повары рэстарана), Святлана Уладзіміраўна Белавусава (кандытар сталовай № 1) і Валянціна Уладзіміраўна Пятрашына (кандытар сталовай № 4).

Усім пераможцам дырэктар аб'яднання Алена Анатольеўна Буцькова ўручыла Ганаровыя граматы, падзякаваўшы за работу і пажадаўшы, каб і заўсёды кожная страва, кожны выраб рыхтаваўся імі з душой і любоўю, бо толькі тады будзе поспех і ўдзячнасць наведвальнікаў і пакупнікоў.

**В. КВАРЦЮК.**

**Культура**

## С песней мир добрее

Когда слушаешь выступление хора ветеранов войны и труда районного центра культуры, невольно всплывают в памяти слова из песни: "Не стареют душой ветераны". В хоре занимается более 30 человек. Эти люди по прежнему молоды душой и искренне любят песню. Более пяти лет коллектив радует своих слушателей не только удивительным пением, но и разнообразным репертуаром: военная тема, песни советских композиторов, народная песня. Концерты обогащаются и за счет творчества самодеятельного композитора, руководителя коллектива, заслуженного деятеля культуры БССР Ячнева Леонида Иосифовича. Пение, в основном, четырехголосное и пятиголосное.

Всегда, слушая их, невольно ловишь себя на мысли: какие они пожилые?! Так молодо и мелодично звучат их голоса. Настоящий добротный вокал, гармония многоголосия, искренность чувств, темперамент, устойчивость интонаций.

В 1998 году коллектив успешно выступил на областном смотре-конкурсе ветеранских коллективов и завоевал диплом второй степени и награжден ценным подарком. За высокое исполнительское мастерства, активную концертную деятельность и творческое развитие национальных культурных традиций в 1999 году коллектив представлен для присуждения ему почетного звания "Народный". Недавно он принимал участие в областном фестивале народного творчества ветеранских коллективов, где ему и присвоено звание народного. В марте текущего года на репетиции коллектива присутствовали работники сельских Домов культуры и клубов. После репетиции Галина Владимировна Савченко, заведующая Киселево-Будского сельского клуба, в беседе со мной сказала: "Смотрела на них, и поневоле в голове рождались мысли: молодцы! И стать в них, и благородство, и бодрость духа, и мужество, чтобы заниматься творчеством в такое трудное время.

В их исполнении песни звучат на очень высоком уровне выразительности, что даже у меня, привычной к исполнению, дыхание захватывало. Молодцы, молодцы!"

Не могу не отметить вокальный дуэт в составе Шевлюги Николая Владимировича и Давыдова Александра Алексеевича. Им неизменны самый горячий прием и высокая оценка их тонкого вкуса, высокого исполнительского мастерства и артистизма.

Покоряет зрителей и обаяние женского дуэта в составе Слепцовой Нины Васильевны, Москалевой Тамары Николаевны. В их исполнении песнь про мать всегда зрителя трогает до слез. Благородный образ матери они не поют, не играют, он ими всегда прожит, и прожит искренне, сильно, вдохновенно. Хочется сказать большое спасибо этим стойким и талантливым служителям музы, которые, невзирая на все жизненные неурядицы, дарят нам свое искусство и огромное желание сделать мир хоть чуточку добрее и сердечнее.

**В. БАРАНОВ,**
**инспектор отдела культуры.**

**У пракуратуры раёна**

## Плата за хабарніцтва

У апошні час у Рэспубліцы Беларусь ва ўмовах барацьбы з карупцыяй у грамадстве, хабарніцтва з'яўляецца самым небяспечным службовым злачынствам. Яно падрывае давер грамадзян да дзяржаўных і грамадскіх устаноў, дыскрэдытуе іх дзейнасць. Большасць пасадавых асоб у нашай дзяржаве часта выконваюць свае абавязкі па службе, праяўляючы добрасумленныя адносіны да даручанай ім справы. Аднак яшчэ сустракаюцца і такія, што не лічачыся з законамі, злоўжываюць службовым становішчам, бяруць хабар.

Менавіта такім работнікам аказаўся былы інжынер і старшы змены пункта пропуска "Звянчатка" ГП "Белдарцэнтр" камітэта па аўтамабільных дарогах пры Міністэрстве транспарта і камунікацый РБ Зубель О. В. У час праверкі аўтамашыны "Мерседэс" і перавозімага груза ён запатрабаваў ад экспедытара 50 доларaў ЗША за пропуск аўтамашыны без узімання платы за праезд па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, без узважвання аўтамашыны і груза. Гэтыя грошы Зубель атрымаў і "прыкарманіў".

Супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі хабарніка з доказамі злачынства.

Прыгаворам суда Клімавіцкага раёна ад 15 лютага 2000 года гр-н Зубель О. В. быў асуджаны па арт. 169 ч. 1 КК РБ (атрыманне хабару) з прымяненнем арт. 23-1 КК РБ да 1 года 6 месяцаў пазбаўлення волі ўмоўна з абавязковым прыцягненнем яго на тэрмін назначанага пакарання да работ. Прыгавор суда ўступіў у законную сілу.

Даны прыклад з'яўляецца папярэджаннем аматарам лёгкай нажывы ў выглядзе атрымання незаконных узнагароджванняў, урокам таго, што пакаранне за гэта будзе непазбежным.

**Л. КАЗЫРЭНКА,**
**памочнік пракурора Клімавіцкага раёна, юрыст 3-га класа.**

**•Служба 01**

## Пагроза ёсць, і сур'ёзная

Інспекцыяй дзяржпажнагляду праведзена аператыўнае пажарна-тэхнічнае абследаванне жывёлагадоўчых памяшканняў калгасаў і саўгасаў раёна.

Як не сумна, але прыходзіцца канстатаваць, што мноства грубых парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі ствараюць сур'ёзную пагрозу ўзнікнення пажараў. Ну, а якія могуць быць вынікі ад іх на даных аб'ектах — уявіць не цяжка.

Спачатку аб тых парушэннях, што могуць паслужыць прычынай пажараў. Першае — гэта электраправодка. У многіх і многіх памяшканнях і, бадай што ў кожнай гаспадарцы, неабходна мяняць электраправодку. Нямала на сёння ў раёне хлявоў, якія не эксплуатуюцца, але далёка не ўсе яны адключаны ад лініі электраперадач. У калгасах "Галіцкі", "Чырвоны сцяг", "Сасноўка", саўгасах "Высакоўскі" і "Макеевічы" толькі пакуль не адзначаецца гэтага парушэння.

Мала дзе на жывёлагадоўчых памяшканнях ахова ад маланкі ў спраўным стане. Грашаць іншыя і сваёй безгаспадарчасцю: што-што, а смецце і згараемыя адыходы звезці з тэрыторыі фермы кожнаму пад сілу.

І вось здарылася бяда: узнікла загаранне і агонь выходзіць з-пад кантролю. А на 39-ці фермах у раёне няма тэлефоннай і радысувязі. Гэта ў чатырнаццаці гаспадарак з васемнаццаці. А калі ўлічыць, што практычна на ўсіх жывёлагадоўчых фермах адсутнічаюць пярвічныя сродкі пажаратушэння і не арганізаваны разлікі дабраахвотных пажарных дружын — малюнак увогуле атрымліваецца толькі ў чорным тоне.

Прыклад. У час праверкі жывёлагадоўчай фермы в. Пяньковка парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі і тэхнікі бяспекі быў выяўлены поўны камплект. А вось дзённага дзяжурнага мы так і не змаглі "выявіць". Толькі прывітала нас, па-свайму, вышаўшая свабодна з хлява, буронка.

Пасля абследавання жывёлагадоўчых памяшканняў калгасаў і саўгасаў раёна інспекцыяй дзяржпажнагляду былі прыняты пэўныя меры рэагавання (прыпынена эксплуатацыя 5-ці памяшканняў, 12-ці цеплавытвараючых установак, 9-ці агрэгатаў, забаронена эксплуатацыя 800 участкаў электраправодкі, адной электраўстаноўкі, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 16 чалавек (усе пасадавыя асобы). Але, як мне сказалі ў інспекцыі дзяржпажнагляду, гэта толькі малая частка прынятых мер, бо прыняцце некаторых з іх у поўным аб'ёме патрабуе прыпынення асобных звенняў тэхналагічнага працэса вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі.

**В. КВАРЦЮК.**



**Калектыў Клімавіцкага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі выказвае глыбокае спачуванне інжынеру ПТО ШТЫЛЁВАЙ Ларысе Яфімаўне з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.**

**Калектыў работнікаў Клімавіцкага хлебазавода выказвае глыбокае спачуванне рабочаму РАМАНАВУ Валянціну Іванавічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.



**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**
**Зак. 40. Тыраж 1850 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 23. 5. 2000 г.**